АНДРЭЙ АЛЕКСАНДРОВІЧ

# ЦЕНІ НА СОНЦЫ






ДВБ.

АНДРЭЙ АЛЕКСАНДРОВІЧ

# ЦЕНІ НА СОНЦЫ

ПАЭМА

*ВЫДАННЕ ТРЭЦЯЕ*

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
СЕКТАР МАСТАЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ
МЕНСК — 1936

ЭТО ОЧЕНЬ ПЛЕВОЕ ДЕЛО,
ЕСЛИ-Б РЕВОЛЮЦИЯ ЗАХОТЕЛА
СО СЧЕТОВ ОСОБЫХ ОТДЕЛОВ
ЭТУ МЕЛОЧЬ
СПИСАТЬ В РАСХОД.

Владимир Маяковский

# Уступ

Як не славіць песняй сакалінай
Беларусь—рэспубліку сваю!
Краіна родная! Совецкая краіна!—
Табе я ў песнях сэрца аддаю.

Ты красуеш ростам рыштаванняў,
Творчай працай гартаваных сіл.
Ты ў агні шчаслівага світання,
Быццам раніцай
На ўсходзе небасхіл.

Краіна родная! Совецкая краіна!
Б'юць паклон табе, як сонцу, нашы дні,—
Б'юць паклон і славу ткуць машыны
Непарарыўнай працай шасцярні!

О, сонца, звязывай у моцны вузел хмары!
Красуй, жыццё рунеючай зямлі!
Сусвет ахвачан сонечным пажарам,
Хоць і пад сонца
Цені падпаўзлі...

# Частка першая

## 1

Адзін быў з Меншчыны,
Качаўся тут, узрос,
І тут узгадаваў свае імкненні.
Не раз, на беразе прылёгшы ў вербалоз,
Пярсцёнкамі ўзвіваў ён лятуценні.

Гады імчаліся,
Як хвалі на рацэ.
Прышла вайна...
Забралі...
Абучылі.

Глядзі—ўслужыўся ён,
Стаў унтэр-афіцэр,
І брыль—на сонцы,
Нос — на небасхіле!

А кліч разносіцца:
— Таварыш, кідай фронт!

— Далоў вайну!
— Далоў людское гора!

...Уцёк на Поўдзень ён,
І генерал-барон
Яму даў новы чын,
Даў пару новых шпораў...

Цяпер... паголены.
І тут не сонца-жар.
Жыве, як спец,
Так водзіцца ўжо гэтак:

Учора—
      генерал-барона сакратар,
А сёння—
      кансультантам у Советаў!..

2

Другі герой... Няма тае дарогі,
Дзе не рассыпаў-бы імкненні ён свае.
— Ну, што зрабіць, каб стаць бліжэй да бога?
Маліцца?—Мала, часу не стае...

Але рашыў. І, змрочнасцю пакрыты,
У манастыр пайшоў, схіліўшы галаву:
— „Быць не быць! Дадуць архімандрыта,—
Не, ідрытваю,—іначай зажыву!.."

І не далі. І ён зажыў іначай...
І не спазнаць праз тыдзень альбо два:
Мову вывучыў; стаў ездзіць, як дакладчык,
Рваць карані, пусціла што царква.

Калісьці сам быў старастам царкоўным.
(Ці-ж мала пуцявін у наш дваццаты век?)
Ён знае, дзе й каму зняць шапку,—

Безумоўна—
Ён бывалы, спрытны чалавек!

Барада адна—архімандрыта варта,
Таму мо'й вылучэнцам стаў, як на бяду.
І гляньце—сёння ён дырэктарам тэатра.
—„Фрэнч далоў! Падайце мне сурдут!“

3

Лагодна жыць! Як не любіць сваяцтва?
Адным ён сват, другім шаноўны кум.
А зяць яго! О, зяць—
Мастацтва для мастацтва,
Збавенне ў пекнаце,
Цудоўны персцень дум.

Сваяцтву гімн! Яно гняздо звівае,
Гняздо прытульнае, як птушанькам вясна
І кум, і зяць, і ўсіх знаёмых зграя—
Арыентацыя даходная адна.

Славуты кум, дарогай камяністай
Да славы ідучы,
Не раз змяняў свой грым:
Ён земгусарам быў,
Чыноўнікам,
Міністрам
У Скарападскага па справам нутраным.

Прагналі з Кіева, і зяць зазваў у Прагу.
Без дзейнасці—ніяк не можа быць:
З'явіўся ў Вільню ўжо, і там, нібы з адвагай,
Ён прагнуў памагчы ў хвіліны барацьбы.

І першы крок:
— Браты!
(Здымае акуляры...)
— Гатоў вагонамі вам кнігі дастаўляць,
Але мне дайце тысяч сто даляраў—
Пасунем справу! Будзем працаваць!

І не далі! Здзівіліся і толькі!
Пануры ў Прагу выехаў назад...

Міргнуў у полі явар адзінокі,
І засмяялася ля возера лаза.

Абодва ў нас цяпер,
На „бальшэвіцкіх“ крэсах,
Змянілі гальштукі, дый што далей казаць:
Чудэсны кум—чырвоны стаў прафесар,
Вянок выдатнасці набыў цудоўны зяць.

4

І пяты друг: адкормлены случак,
Вочы вострыя, як быццам гіцлі ў шафе.
Сваяцтва зноў:
Дырэктару—зямляк,
Кум—куму,
А кансультанту—шафер.

Біць паклон
Прывык ён з даўных дзён.
І знаць ні знаць,—
А слухаць пад дзвярыма.

Было ён першы рынуўся на фронт,
На абарону—
„Единой неделимой“.
І незадоўга Карскага партфель
І рэчы іншыя ўслед за Карскім носіць.

... Зайшлася-закруціла карусель—
Здаць пазіцыі без бою давялося!

Змяніўся час... О, доля перамен!
Дый што зрабіць, прышлося пагадзіцца:
Сёння ўжо—дзівіцца—ён дацэнт!
Сваяцтву гімн!
        Няма чаму дзівіцца!

5

Не ў гэтым рэч, што сын ён іерэя,
Не ў гэтым рэч, што сам абшарнік быў...
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Папаў знянацку ён пад посвісты завеяў,
Знянацку сціснуты ў абоймы барацьбы!

А высунуўся,—(уласная упартасць!)
З людское гушчы ў страшную часіну
І стаў, як сын пакорлівы, на варту:
Бараніць—фальварак і краіну.

Бунтаўшчыкоў ён
(Першы пункт праграмы)
Расстрэльваў—
З кайзеравай зброі.

Пра вернасць Кайзеру
Аддана
Тэлеграму
Падпісываў крываваю рукою.

Трымаўся сам, трымаўся і фальварак.
(Краіна змучана іржою крат і вар...)
Як слаўна роль ішла прэм'ер-ветэрынара
У вернасць слова—бой-ветэрынар!

Не ў гэтым рэч, што часта так гасціла
Яснавяльможная княгіня Радзівіла
І гаспадар,
—Прэм'ер-ветэрынар,—
У бляску, гонару вітаў княгіню мар.
Яна-ж дапамагла і „праўдаю і верай"
Ветэрынару выбрацца ў прэм'еры.

Былі часы, былі законы.
Была і рада, і быў і ўрад.
Кайзер—думае, а ветэрынар з паклонам:
— Мала сродкаў? Дамо загад!

І ўсё-ж не ў гэтым рэч.
— Было?
— Звялося!
Няхай гісторыкі-марксісты разбяруць.

А ветры лютыя...
Імглой стагнала восень.
Як чэрві, твар зямлі
Калыбы хмар грызуць.

Сука шызая княгіні Радзівілы
Радзіла шызых трох шчанят.
Сялянка іх дагледжвала, туліла,
Хоць сэрца плакала, як плача поле ў град.

Сваё дзіцё ад недагляду сохла
Удзень дзіцё сваё і ўгледзець не магла,
А тут шчанят глядзі...
Адно назаўтра здохла,—
І смерць шчанка жанчыне смерць звіла.

— О, рукі хамскія! Ніжэй схіляйце карак...
Княгіня выгнала сялянку у бядзе.
І тут-жа вызвала прэм'ер-ветэрынара
За шчанятамі і сучкай даглядзець.

— О, не прымаць яе! Хто рыме—прэч за ёю!..
А ноч сцюдзёная...
Яна і не адна,—
З дачкой маленькаю, гаротнай сіратою.
Ім свет цяпер—пясчаная труна.

Бяссіллем кроў пакрыўджаная стыне.
— ... Ідзіце, ножанькі, жабрачыць пад царкву...
Бо хто асмеліцца ўладарніцы-княгіні
Не схіліць з пакорай галаву?

Шчанё аплакалі, і блізка ля тэрасы
Вырас кветкамі асыпаны курган...
А ў полі восенскім крыляўся-віўся ласа
Над уміраючай сялянкаю груган.

Наступным днём прэм'ер праездам бачыў,
Як маці мёртвую хацела ажывіць—
І пацалункамі, і ласкамі, і плачам
Сірата сялянскае крыві.

Падбегла, ўбачыўшы жывога чалавека,
Як ліст калоціцца, працягвае руку.
Ён адагнаў яе—адным ударам стэка,
Як кат, скрывавіўшы дзяцінную шчаку...

. . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . .

6

Капейку да капейкі,
Глядзіш—сабраў рубель.
Не скрыпку ці жалейку
Купляем мы сабе.

Імкнемся ў родным краі
Старое сцяць ушчэнт.
Начынне мы купляем,
Купляем мы цэмент!

Мы ўзводзім рыштаванні—
Працоўнай сілы шмат!
Але адно, як глянеш,—
Ці-ж мала ў нас растрат?

А колькі хлебаедаў
На карку ў нас сядзяць?
— А ўсе свае патрэбы
Мы самі зможам сцяць?

Эх, людзі, людзі-п'яўкі—
Іх спецыяльны штат.
Даем мы ім спецстаўкі,
Узвышаны аклад.

— Таварышы, браточкі,
Сястрыцы вы мае!
Яшчэ-ж нам на сарочкі
Паркалю не стае.

Капейкі дарагія
Збіраем мы адны,
А з іх жывуць былыя
Праклятыя чыны.

І хочацца часценька,
Каб ценяў гэтых жуць
Узяць і колкім венікам—
Страхнуць-бы, страсануць!

## 7

Ідзем наперад мы, і цені з намі йдуць.
Мы карчуем пні—
Яны ў кустах прылеглі.
Ну, а дай спаткаць нам ворага-бяду,—
Адышлі-б адразу,
Ой,—адразу-б збеглі!..

І як хораша было-б яно цяпер!
О, як хораша было краіне нашай!
Я ад сэрца, шчыра, напісаў-бы верш,
Яго назваўшы скромна—
Урачыстым маршам.

Руку таварыша, як любы свой багнэт
Сціснуў моцна! Радасцю я ўзрушан!
— Наіўнасць шчырая,
Яны жывуць як след,
Жывуць, прыкрыўшыся
Совецкім добрадушшам.

---

# Частка другая

1

Рынуўся лёд. Затрашчалі масты.
Крыга за крыгай—навала.
Рушыцца-крышыцца бераг круты
Быццам прыморскія скалы.

Сонца сваім прамяністым ключом
Радасць зямлі адамкнула.
Рвуцца ручайкі, імчацца наўзлом—
Красавіковым гулам.

2

У браме, ад зор і да зор,
Сядзіць чорнамазы айсор
І чотка
На скрынцы „чачотку“
пе-ра-бі-ра-е шчоткай:
— Час кароткі
Мы жывём.
Падыходзь, не эканом!
Гэй, таварыш, за два злоты
Бліснуць боты
Пазалотай.
Гэй, прахожы,
Блізкі, дальні—
Глянс наводжу,
Дасканальна.
Даваеннай
Аксаміткай,—
Проф-саю-зам
Скідка!

3

Шырокая вуліца, гоман вясновы.
Звіняць на каменнях
Праменняў
Падковы.

Сыплюцца іскры, як быццам з ракеты,
Бульвары аздобіўшы срэбраным цветам.

А вецер напружана зрэбнаю хусткай—
Прэ непісьменнасць рэклам беларускіх.

Шырокая вуліца... Колькі народу!
Рэкордная схватка раз'юшанай моды...

Народу набралася—проста не злічыш,
Сезон перадмайскі, фасон заграніччы.

Купаецца ў хвалях жывой акварэлі
Між кепак совецкіх—замежны капелюш.

4

І да айсора пачысціць гамашы
З фатографам-другам паэт падышоў.
(Ідэалогія—ваша і наша,
Нашы і вашы фарбы слоў).

Замежны капелюш—паэт непрызнаны,
Славутага дзеяча—хвалены зяць.
З фатографам-другам, другам адданым,
Любіў сустракацца, любіў сеймаваць.

Аднойчы казаў ён,—радзіма-краіна
Марудна расце, як і сам беларус.
Фатограф даводзіў,—што мы—безупынна
Ўзбіраемся вышай, што крок—угару!

— Наша краіна ідзе з перамогай,
Яе не спазнаеш праз год, альбо два.

— О, гэта ўяўленне! не хутка бярлогам
Прыдуць на змену часы хараства.
І толькі збавенне ў цудоўных пякнотах!..

— Па-мойму, дык іншае зменіць прастор.
І іншае гэта—індустрыі ўзлёты;
Паверце, я-ж рэпарцёр!

— Паверце і мне, гэта толькі крык
І прывабны такі, як вясенні.
Не веру я ў сілу совецкіх пазык,
Гэта толькі адно захапленне...

Паглядвае скоса дый здзіўлена гэтак
За працай сваёй чорнамазы айсор.
Паглядвае скоса айсор на паэта,
Усмешку ў айсора ўзбудзіў рэпарцёр.

5

І тут-жа ў браме
Звоніць нажамі,
Вітае прадвесне
Вытворчая песня:
— Сып, бяжы,
Угару,
Угрунь.
Вастру
Нажы,
Нажы вастру.
Гэй, жар, брусок,
Яшчэ разок,
Яшчэ разок—
Блішчыць лязо!
Ўгару,
Угрунь
Бяжы,
Ляці,
— Чые нажы?
Плаці!

6

І зяць надумаў свой сцізорык навастрыць,
Ажно заўважыў—ля цукерні—
Цесць яго стаіць.

Праменні ўюцца ў цёмнарыжай барадзе...
Стаіць захоплены, на дзіва для людзей,
Каля вітрын цукерні,
Расчыніўшы рот,
Ды гадае-думае—
Які тут лепшы торт?

Паэт з фатографам да цесця падышлі,
Утрох стаяць—мяркуюць і спрэчку завялі:
Адным фруктовы торт,
Цукровы для другіх,
Стаяць каля цукерні,
Спрачаюцца ўтраіх.

І тут-жа песню ціхую
Заводзіць камерсант,
Яго вясна не радуе,
Не радуе краса:

— Дый на сто адсоткаў
Мы жывём дарма.
Згінуў заработак,
Ой, няма, няма.

Усяго патроху,
Усё-ткі магазін.
Гальштук ці панчоху,
Збыць-бы на пачын!

Хоць рубля на цуда
Мела-бы рука.
Як ні глянь, усюды—
Толькі ЦРК.

Што-ж, браточкі, будзе?
Што-ж гэта рабіць?
Пэўна мы не людзі,
І не трэ' нам жыць?

Узрывай, паводка,
Гэткі лёс тарчма!
Згінуў заработак,
Ой, няма, няма...

А горад крынічыць
Абуджаны гулам.
Народу не злічыш,
Не злічыш прагулаў.

О, як цудоўна! Паэзія славы!
Партфель у левай,
А торт у правай...

На спацыры з цесцем
І зяць і фатограф,
Пад сонцам, па бруку!
Як вольна, як добра!

7

Былі-жылі на свеце два браты,
Жылі не ў роскашы, не ў веях пекнаты.

Як дзень і ноч,
Знікаў за годам год,
Адзін разумны стаў,
Другі—наадварот.

Адзін да працы звык, і ў тыя злыя дні
Ён з першых раздуваў
Рэвалюцыйны зніч.
І не шкадуючы
Юнацкай галавы,
Добраахвотна стаў
Армейцам радавым.
Цяпер на фабрыцы
Каля варштату зноў...

Другі-ж валэндаўся
Што-вечар па кіно,
І стаў пажарным
(Каб у армію не ісці—
Адно выгоднае знайшлося што ў жыцці!).

А там і фатаграфіяй займацца ён пачаў,
Калі сціхалі буры, віхор калі сціхаў.
Але жыццё мяняецца,
І ўжо не так даўно
Фатограф шле нататкі
Ў газету пра кіно.

Пайшла пісаць губернія!
Выдатны рэпарцёр...
„Голубая кофточка, веселый разговор"...

І дзівіць дзіва дзіўнае, як піша Ясакар,—
Нізкая якасць, высокі ганарар.

Кар'ера, на дыбы! Залічаны ў штат:
Будзь знаём рэдактару—
Падвысіцца разрад!

8

Этнограф,—(О, бедная краіна!..)
Па прафесіі, між іншага, хірург...
Ён сёння зморансы—
Ну, проста сілы гінуць,
Ну, проста ён без сіл наводзіць манікюр.

Гады ляцяць, сівеюць бровы.
Калісь было—
Бурліла ў жылах кроў.
Калісь было—
Адным гарачым словам
Ён замяняў звычайных сотню слоў.

Калісь было... Стагналі ў завірусе,
Стагнаў народ, як поле ў буйны град.
Калі азёры слёз
Раслі на Беларусі,
Ён на Украіне быў,
Там быў ён—дыпламат.

І там-жа кума ён сустрэў аднойчы.
Пасябраваліся. І з тых часоў былых,
Адным агнём у іх пылаюць вочы,
Адным імкненнем б'ецца сэрца ў іх.

Цяпер этнограф доследы праводзіць
Над нашай глебаю, над скарбам таямніц,
А ўсё яшчэ і следу не знаходзіць
Багацця нашага захованых крыніц.

Але, рэч ведама,
Як спец, амаль адзіны,
Ён атрымоўвае з нагрузкаю аклад.
І нат' яшчэ ўзбагачан новым чынам—
У акадэмікі чацверты кандыдат.

Казаў начальству ён:
— Вайна хай загрукоча—
Чырвонай арміі мы верныя сыны.
І ў грудзі б'е сябе, і хітра жмурыць вочы,
Бо ў камізэльцы схована „отсрочка
На два месяца в случае войны"...

Эх, дыпламат! Эх, бедная краіна,
Калі этнографам становіцца хірург...

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Ён сёння зморапы.—
Ну, проста сілы гінуць,
Ну, проста ён без сіл наводзіць манікюр

9

Над горадам сцелецца змрочны шаль—
Красавіковы вечар.
Дацэнт і дырэктар да кума на баль
З дамамі едуць, бясспрэчна.

Вязуць падарункі: дацэнт сервіз,
Дырэктар торт ананасны...
На вышку антэны месяц узвіс—
Месяц, як лысіна, ясны...

На выдутых шынах рамізнік па бруку
Мчыць кансультанта да кума.
У жонкі ў руках дарагіх падарункаў
Арыгінальны клумак.

Пенснэ праціраючы, ветэрынар
Тузіну нёс піро жных,
І ўсё праклінаў гарадскі тратуар:
— Хадзіць абсалютна няможна!

Запрошан фатограф. Долю сваю
Аддаць ён надумаў на дзіва:
Узяўшы ў прафесара інтэрв'ю—
Змясціўшы ў газеце курсівам.

Аванс атрымаўшы пад свой ганарар,
Зяць (безумоўна!) з пашанай—
Цесцю нясе залаты парцыгар
З надпісам вершаваным.

А доктар імкнецца пабіць рэкорд:
Другу свайму дарагому
Вязе ў падарунак сервіз і торт
І гульні хлопцу малому.

Спішыцца ў горадзе зморany тлум,—
Трэба й яму адпачынак...
Сёння прафесар, чудэсны кум,
Спраўляе свае імяніны.

10

Полымем зор
Небасхіл ахвачан.
На вуліцы—
Полымя буйных рэклам.

Шчупленькі крытык
(„Марксісты" няйначай!)
Стаіць задуменны
Пад шыльдамі крам.

Стаіць і любуецца шыкам вітрыны,
У вачах праз пенснэ прабіваецца сум:
Ён не запрошаны
На імяніны,
Не ўспомніў пра крытыка хвалены кум.

Стаіць задуменны, успаміны крыляцца,
Упёрся плячмі ў тэлеграфны слуп.
І чуе ён словы, ён чуе знянацку,
З дзявочых фарбована-змучаных губ.

Адна падышла:
— Чаго-ж ты самотны?
Пад ручку ўзята...
Падміргнула...
Пайшоў...

І —
Непрыкметна
Ў цьму падваротні
Яго прывяла
Ўзбунтаваная кроў...
— Ну, не слюняйся, плаці і не тузай,
Чаго заікаешся, печаны гад!

— Мне, б'ачце, скідку,
Я-ж член профсаюза,
Б'ачце, галоўна, выдаткаў шмат...
— Эх, ты!..
За гальштук хапіла са свістам,
Сарвала пенснэ, растаптала шкло.
Ён тупаў, кідаўся, затросся, як ліст той,
Пахаладзеў
І —
Усё прайшло.

Маланкай дадому прыбег ён сярдзіты,
А ў галаве навальнічны шум.
Скрыўджаны сёння праслаўлены крытык,
Мутная помста звівае душу.

Ён не запрошан... А славіў у друку
І лектара-кума і зяця яго.
Малітву чытаць стаў,
Сагнуўшыся крукам:
Усхліпвае цмяна-лампадны агонь...

— Расіец заўзяты ў расійскім парадзе,
Выходзіў палякам на польскі парад,
Цяпер беларус пры Совецкай уладзе,
Які добрадушны Совецкі ўрад.

Крытыкам стаў пролетарскай культуры,
Чужы хто—ён „крые“, бярэ ганарар.
Знаёмаму—славу ў рэспубліцы бурнай
Заўзята стварае філосаф-ліхвяр.

Час прабягаў... Злосцю паколаты,
Каб забяспечыць спакойны сон—
Дастаў ён з-пад прыпека
Скрыначку золата
І любаваў даваенны звон.

Затым падлічаў ён запасы далараў,
І не вячэраў, бо заўтра на звод—
Трэба патраціцца на акуляры,
— Б‘ачце, зусім непрадб‘ачны расход!

Лёг у пярыну і помстаю лютай
Рашыў ён за гэткі няведамы здзек
Кума пакрыць па традыцыі—крута,

Каб помніў, што крытык—
Бой-чалавек!

А не, калі справа не гэтак паверне,
Грошы сабраў, дык чаго бедаваць?
— Паеду дамоў у Тверскую губерню,
Плёвая справа дыяканам стаць!..

11

Асабняк. Закрыты акяніцы.
Наўкол цвіце вішнёвы маладняк.
Сюды сабраліся на радасць весяліцца,
Сюды на радасці сабралася радня.

Пакоі светлыя, прасторныя пакоі!..
Радні сабралася дзесяткаў, мабыць, тры.
Жанкі вясёлыя з „узвышаным“ настроем,
У кожнай кроў румянцамі гарыць.

Ужо, як водзіцца, заўсёды ў кожным доме
Жанкі збіраюцца, і кожная, як след,
Перабіраюць фатаграфіі ў альбоме,
Захапляюцца, сустрэўшы свой партрэт.

Гадзіннік стрэлкі ўгору падганяе,
Ударыў „поўнач“ звонкі малаток.
Мужчыны ў „прэферанс“ захоплена іграюць,
Другія цешацца ў спакойнае „лато“.

Сястра дацэнта йграе на раялі.
Прад ёй паэт пакорна стан сагнуў.
У гуках музыкі абодва ўспаміналі
Пару юнацкую, шчаслівую вясну.

Яна спыталася і ціха-так, таемна:
— Ты помніш Крым? Цыкады там пяюць...
— Я помню любая...
— Калі табе прыемна,
Твой верш, ён, праўда—мой,
Табе я прапяю:

На беразе Чорнага мора
Рассыпаў я думкі сузор'ем,
І як не маліцца прасторам
На беразе Чорнага мора?

Рассыпаў я думкі сузор'ем
І моўчкі стаю ў задуменні.
Гатоў нават стаць на калені
На беразе Чорнага мора.

І як не маліцца прасторам
Вольніцы сілы і славы?
Штось раптам крыляцца праявы
На беразе Чорнага мора.

А вечар запальвае зоры
У горах высокіх, каменных.
Люблю я стаяць задуменным
На беразе Чорнага мора ..

І рамада да паэта, адразу,—
— Просім вас,
Просім,
Мы просім вас
Разам:
— Прадэкламуйце!
— Урывак з паэмы!
— Любім паэзію!
— Ёю жывем мы!
Прыемна гарэць у агні хараства...
Паэт бляск вачэй апускае.
Адкашляўся— раз.
Адкашляўся—два.
Вынуў blok-not.

**Чытае:**

„Пад сонцам, сям'ёю нязрушнай
Пярсцёнкам дзівоснага шчасця.
А ў шчасце святым добрадушшам
Дзверы адчынены насцеж.

Мы—дзеці багатых традыцый,
Пакаленне найлепшага ў свеце.
Наша шчасце агнём бліскавіцы
Ўзвіваецца зайздрасцю ў свеце.

О, мы непадступны, як скалы,
Мы ў хвалях сваіх лятуценняў.
Сагнем-жа, пад звоны бакалаў,
Хараство жыцця на калені!

Ніякай рукою брыдотнай
Наша не сцяць існаванне...
Чаму-ж не маліцца пяшчотам—
Вянку залатога кахання!?"

— О, як цудоўна!
— Дзівосна!
— Браво!
Абступілі яго навакол...
А імяніннік,
Узрушаны славай,
Гасцей
Запрашае
За стол.

1928

---

# Частка трэцяя

## I

На небакраі глыбока-глыбока
Зара-зараніца прыплюшчыла вока,
Скрытнасцю хітрай, іскрой залатою—
Глядзіць на жыццё гарадское.

Хай гэта вобраз кантролю, надзора...
На змену зары загараюцца зоры
І бляскам сваім з недасяжнага ўзгор'я—
Сочаць за ходам гісторыі...

Завулкам зялёным
Студэнцкая моладзь
Раскідвае гоман
Вясёлы.
Гуртам-аравай,
З песняю бравай,
Праходзяць бадзёра—
На славу!—

Мо' пачуеце дацэнта
З неахвойнасцю акцэнта?
Не дзівіцеся! Не трэба!
Не шукайце слоў ганебных!
Прыдзе час—удасканаліць,
Як-ні-як і тэрмін далі.

Тэрмін пройдзе ў цмяней славе,
Глянь—дацэнт як трэба стаў,
І не скажа больш—„панздравіў"
Прыгажэй за—„прывітаў".

Многа ў нас такіх збярэцца.
Што-ж ты зробіш? Як без спецаў
Абыйсціся?.. Пачакаем.
Спец, як хлеб. Пара такая.
А дацэнт? Ну, хто не знае,—
Спец так', як я кітаец.

З нашай мовы скажа слова...
Брызне ўхмылкай ішака.
Пару слоў з другое мовы..
...Звоніць—звон без языка.

Як каромысла, на носе
Шкло для важнасці ён носіць.
Па абмылцы, часам, прэса
Клічку дасць яму—прафесар.
Раз—прафесар?—Ясна, з мовай
Знацца не абавязкова.

Шэсць казырных—выйгрыш мірны,
А на сем—рыскне і трус.
І дацэнт, як туз казырны,
— Чым паб'еш казырны туз?

І раптам песню абарвала,
Як струну цымбалаў,
Сірэна аўто.

— Хто-ж гэта, хто?
Машына стала.
Ён—пайшоў у асабняк.

— Пэўна куму сваяк?
Аднак
Шофер „зачыніў Fiat",

Закурыў замежную цыгару
І даў знак
Мінай важнасці на твары
Што ЁН ледзь-ледзь не дыпламат

Сярод гурмы юнацкай
Пазнаў адзін аж надта.
(Калісьці быў на працы
З ледзь-ледзь не (дыпламатам)

І расказваў злосна,
Злосна і страката,
Пра прыгоды-дзеі
Ледзь не дыпламата.

— Слухайце!
Сам ён шляхецкай пароды
Мужыцкаю працай
Жыў доўгія годы.

Цягаўся за межамі
Ў часе змагання.
Супроць нас трымаў,
Як смерць нашу, камень.
Толку ўсё-ж мала:
Заводзіць ён гандаль,
Арганізуючы
Штаб контрабанды.
Праз час, незадоўга,
Ён тут, сярод нас —
Пераніцованы
Ў нашынскі бляск.
Спярша —
рэгістратар.
Затым —
дзелавод.
Дав-вай
Кар'ера!
Поўны ход!

*

Раён, затым акруга..
Ледзь-ледзь не дыпламат —
На курсы выязджае
Ў славуты Ленінград.

Вярнуўся ён, як крытык,
А крытык — чорта два.

Што чалавек—то плечы,
На плечах—галава.

Расце, расце паэзія,
А крытыкі няма.
Таму і хлеб харошы,
І слава задарма.

Паэта-раманіста
(Пайшла такая мода!)
Аблае мешчанінам,
Злачынцам зробіць шкодным...

... Зірнула сонца яснае
Ў ягонае акенца,
І—ён пралез у шэрагі
Савецкіх вылучэнцаў.

Амерыкан-кар'ера!
Партмаксімум!
Fiat!

І выкшталцоны шляхціц
Ледзь-ледзь не дыпламат.
А ўсё-ткі
І партфель,
　　　І тон,
　　　І партбілет,—
Пралаза, ветрам шыты,
　　　Спрытны прайдзісвет!

А ў кума імяніны,
І слухае зямля —
Грузінскую лезгінку
Малітву Шаміля.

Стаіць Fiat-машына
І слухае шафер.
А ў сэрцы гнеў бунтуецца,
Нібы палонны звер!

— Лілі мы кроў, змагаліся,
За што?—і сам не знае.
— Буржуазію выгналі,
Дык новая ўзрастае?..

А з вечарынкі чуецца:
— Будуем новы быт!
„Лявоніху“—„Лявоніху“—
Мясцовы каларыт...

А зоры,
    Зоры,
    Зоры
    І месяц
    Заадно —
Шафера угаварваюць
У бок звярнуць стырно.

І кіраваць машынаю
Гартованай рукой—
У новы і рашучы
І хай астатні
Бой!

2

Двурогі месяц зваў на сход
Брыгады зор ударных.
Парадак дня: праверыць ход
Спаборніцтва ў надхмар'і.

А шустры зорны маладняк
У хвалях змроку мутных
На „вус матае“ асабняк,
Усіх яго прысутных.

Ліюцца песні, і „кадрыль“,
„Лявоніху“ змяняе.
Працвітай уласны стыль—
Самабытнасць края!

Зор атрад свой смех ліе,
Іскрыцца над шаферам:
— Табе, таварыш, мы свае—
Мы з лёгкай кавалеры.

І раптам, ценню ля аўто,
Да кума ў двор стралой,
Схаваўшы твар у паліто—
Яшчэ адзін герой.

Чакай герой, ты будзеш наш.
Таемнасць мы развяжам!..
— О!.. гэта ты, падхалімаж,
Ці падхалім, як кажуць.

3

Туманнымі пальцамі хмар
Восень лісце пажоўклае рвала.
Вецер біўся, як хвалі аб скалы,
І імглою бурліўся, як вар.

Няветліва восень прышла.
Як краты, сціскаюць туманы.
Фурманкі дзве золакам-рана
Крануліся разам з сяла.

Папераадзе ўхутаны поп
У гімназію сына завозіць
Вучыць, але сэрца ў трывозе:
Сына вязе й земляроб.

І ён за свае за правы
Трывогу не мог не рассеяць.
Тутэйшая наша Расея,—
Поп і... гарадавы!

Папоўскі сынок, як друг,
Залічаны быў, вядома.
А мусіў вярнуцца дадому
Сын земляроба—пастух.

Прыдушаны грудзі зямлі.
Бязлітасна гойсае восень.
Дарога даўгая... Галосяць
Прысады галінамі ліп.

## 4

Зазвычай, як года не стане,
З надзеяй вітаюць другі.
Туга ішло навучанне—
Розум нікчэмнай вагі.

Жыццё мае тысячы шчылін...
Папоўскаму сыну, як след:
Дзверы шырэй адчынілі
Ў сталічны універсітэт.

Маліся за здравых і мёртвых,
Дзе трэба—схіліся, падмаж.
Выйдзеш у людзі!—Разгортвай
Планавы падхалімаж.

І ён—дзе падмажа, дзе зліжа,
Дзе пройдзе, а дзе падбяжыць.
Да мэты ўсё-ж блізіцца бліжай..
...Кожнаму хочацца жыць!?

Сягаючы „праўдай і верай",
У лютаўскіх выбухах бур
Стаў ён расійскім эсэрам,
Здатным тварцом авантур.

Чыннасць грамадская вабіць:
У Беларусі прыстаў
І ў павятовым маштабе
Дзеячам слаўленым стаў.

5

Акупаваны
Край
Наш!
Знай:
Каля пана
Падхалімаж.

Артыкул друкуе
Ажыўлена-палкі:
Вітае святую
Нагу маршалка.

У горад і ў вёску
Шле вязку слоў:
— „Смерць
Войску
Большэвікоў!

Шляхта, у касцёлы,
У цэрквы з дарамі.
Радасці золак
Іскрыцца над намі.

Нам край належыць,
Пакуль ззяюць зоры.
Успомніце межы
Ад мора да мора"...

За гэту прысягу,
За гэты артыкул,
Служба і ўвага—
І... морда не біта!

Дзе трэба—лі слёзы,
Дзе трэба—падмаж.
Помніць свой лозунг—
Падхалімаж.

6

Нацпалітыка маршала
Беларуссю панавала.

Мова, школы, песні, клубы
Ахвяраваны на згубу.

А для ўцехі, ад дасады,
Працу вынайшлі для „Рады“—

„Радзе“ даў маршал правы—
Абеларушванне царквы.

На царкоўны гэты звон
Зброд ляцеў з усіх старон.

— Новы курс! Віват! Ідэя!..
Павятовы вырас дзеяч,

Хоць і новыя турботы,
Дый не ўшкодзіць заработак.

„Святы божа“, — „Ойча наш“
Пераклаў падхалімаж...

Веру ў бога, веру ў маць
Пусціць ён, каб праканаць—

Што ідзе і блізка мусіць
Адраджэнне Беларусі.

### 7

Злоты надбавяць,—
Ён возьме нагрузку
Угаварваць
Маліцца
Па-беларуску.
Едзе ў раёны.
Ля цэрквы мясцовай
Перад сялянствам
Разводзіць прамову:

*—„Выхавання*
*Маральнага*
*Быць не можа*
*Без выкладання*
*Закону божага.*
*А каб лягчэй*
*Успрымалі галовы,*
*Мальбу пералажым*
*На матчыну мову".*

Новая праца
І новыя людзі.

Расійскі эсэр
У навінах не блудзіць.

Стаў неадменным
Сябром дэфензівы,

Знаёмства заводзіць
З мясцовым актывам

А неўзабаве
        На сходзе...
            З закускай—

З эсэра
    Расійскага
        Стаў
            Беларускім.

8

Усё пайшло на злом, на звалку.
Патрывожылі маршалка.
Давялося легіёнам
Пад напорам войск чырвоных
Уцячы, хоць зруйнаваўшы
На шляху заводы нашы.

А з завулку гулка-конны
Фланг прарваў—атрад чырвоных.
І эсэр не траціць розум—
Ён знайшоў савецкі лозунг:
—З сэрцам чулым
Ў нашым краі
Вас, таварышы, вітаю!
З нашых плеч зышла гара,
Ура!
Таварышы!
Ур-р-ра!,

9

Працоўныя гораду, воляй авіты,
Вышлі на вуліцу,
Вышлі на мітынг.
Выбухам шчасця
Краіну клічуць—
Змагацца-гарэць

За сусветны Кастрычнік!
Паводкай прадвесні
З песняй мільёнаў
Праходзілі
Поступам
Гордым
Калоны...

Праменні, як дзеці,
На вуліцу лезуць,

З рабочымі разам
Пяюць марсельезу.
На мітынг з калонай
Узвітай,
Рабочай
Падхалімаж
Па бруку крочыць.

10

Кожны шукае
Пражытку сабе—
І ён пралязае
Ў рады КПБ

Тут лёгка дазнацца,
Забраць партбілет,—
Ён едзе на працу
У іншы павет.

Як ліст той асенні,
Дрыжэў ля гнязда:
„Мне отмщение
И аз воздам“.

І хітра, як-небудзь
Праз шчыліны сцен,
З падходцам, дзе трэба,
Ён блізіцца ў цэнтр.

Дзе трэба—лі слёзы,
Дзе трэба—падмаж.
  Помніць свой лозунг—
Падхалімаж.

Вось так і чырвоным
Прафесарам стаў,
І роль камертона
Марксізма ўзяў!..

11

Як людзі, мінаюць
За годам год.
Мы выступаем
У новы паход!

Зрух Беларусі
Рыхтуе наш стан.
Выканаць мусім
Гіганцкі план!

Праца ўзяла большэвіцкі ход!
Ў спаборніцтва вышаў
Працоўны народ!..

А сэрца балюча парой зашчыміць,
Калі, як хрыстос, на будоўлі стаіць
І брудзіць стан большэвіцкі наш
Планавы падхалімаж.

---

# Э п і л о г

Разлівам
Паводкі
За—
Пяцігодку,—
У бой навальнічы
Партыя кліча!

Фабрыка—полк.
Цэх—узвод.
За крокам крок
— Паход!

На межы —
Разбежна!
На хутар—
Гуртам,—
У бой навальнічы
Партыя кліча!

Фабрыка—полк.
Цэх—узвод.
За крокам крок
— Паход!

Тварцоў
    Пакаленне—
        На здраду,
            На цені,—
Ў бой навальнічы
Партыя кліча!

Фабрыка—полк
Цэх—узвод.
За крокам крок
    Паход!

За спеў
    Многаструнны,
        За шчасце
            Комуны,—
У бой навальнічы
Партыя кліча!

Крык
    Варштата—
        Штык,
            Граната,

Нетраў
Сок—
Электра-
ток.

Рух
Машыны—
Плуг
Далінам.

Поле,
Нівы—
Кале-
ктыву!

У добры час!
Красуй, калгас!
Рунь.
Рань.
— Угрунь!
— Паўстань!

Працуй, краіна,
Бесперапынна!

1927—1930 г.
г. Менск.

ЦАНА 1 руб.

Пераплёт 20 к.









*НА БЕЛОРУССКОМ ЯЗЫКЕ*

А. Александрович

**ТЕНИ НА СОЛНЦЕ**

Государственное Издательство Белоруссии

Минск — 1936